**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 06 (879) 9 лютага 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**Сімвалічны першы званок у выкананні дырэктара Дзеркаўшчынскай СШ Іосіфа Уладзіміравіча Анашкевіча і кіраўніка Аддзела адукацыі, спорту і турызму Глыбоцкага РВК Таццяны Вячаславаўны Гаўрылавай, колішняй выпускніцы Дзеркаўшчынскай СШ.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023



**Пастаўскі раён**

# Не аптымізацыя, а ліквідацыя

■ Кастусь Александровіч

**Дэмаграфічная сітуацыя, асабліва ў Прыдзвінні, застаецца трывожнай, што асабліва адчуваюць многія жыхары глыбінкі.**

Пастаўскі раён таксама не пазбег гэтых горкіх працэсаў, бо з 2001 года колькасць насельніцтва тут зменшылася амаль на 12 тысяч чалавек. Па гэтай прычыне штогод многія настаўнікі з трывогай чакаюць заканчэння навучальнага года. З пачатку XXI стагоддзя ў раёне з-за недахопу вучняў былі закрыты 2 сярэднія школы, 8 базавых, а з 13 раней дзеючых пачатковых школ засталася адна. Кожны рэгіён як можа супраціўляецца гэтай тэндэнцыі, аднак кіраўніцтва Віцебскай вобласці вырашыла, што сёлета трэба будзе закрыць яшчэ 45 малакамплектных школ, у большасці з якіх займаецца меней 25 вучняў. У шэрагу такіх вясковых школ засталося нават пячное ацяпленне і ўмовы далёкія ад умоў навучання ў прэстыжных гарадскіх гімназіях. З-за таго, што на Пастаўшчыне летась быў невялікі прырост колькасці вучняў на 20 чалавек і на 39 дзетак прыбавілася ў яслях-садзіках, працэс аптымізацыі ўдалося прыпыніць. Толькі Ляхаўшчынскую яслі-сад-базавую школу, дзе і гаспадарка даволі моцная, перавялі ў разрад пачатковых школ. Старэйшых дзяцей адсюль сталі вазіць на аўтобусах на заняткі ў гарадскі пасёлак Варапаева. На апошняй сесіі райсавета дэпутатаў прагучала як сумны прыгавор, што аптымізацыя сеткі навучання прадоўжыцца з-за пераходу школ на нарматыўнае фінансаванне з разліку на аднаго вучня. Хто сёлета падпадзе пад такое “абразанне”, неўзабаве вырашыцца, але іншага выхаду няма з улікам эканамічных нашых рэалій.

**Полацкі раён**

# На павышэнне ў сталіцу

■ Чэслаў Якубовіч.

**Нядаўнія кадравыя прызначэнні ў вышэйшых эшалонах беларускага кіраўніцтва былі даволі нечаканыя.**

Тэмай размоў для многіх жыхароў Наваполацка стала павышэнне па службе 50-гадовага ўраджэнца вёскі Астроўшчына з Полаччыны Вячаслава Дурнова, які змяніў Аляксандра Гагіева на пасадзе першага намесніка міністра спорту і турызму Беларусі. Адстаўка апошняга прагназавалася раней з-за няўдалага выступлення нацыянальнай зборнай на Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанейра. А вось сам нафтаград застаўся без другога па ліку свайго кіраўніка, бо старшыня гарсавета дэпутатаў паехаў у Мінск услед за Наталляй Качанавай, якая ўзначальвала тут гарвыканкам. Спартыўнае жыццё навапалачан апошнім часам істотна пагоршылася, мясцовыя футбольны і хакейныя клубы апынуліся на мяжы выжывання. Аднак сам Вячаслаў Дурноў пасля службы ў арміі і вучобы ў політэхнічным інстытуце зрабіў нядрэнную спартыўную кар’еру. Ён займаўся папулярным сярод навапалачан вадналыжным спортам, стаў заслужаным майстрам спорту, выступаў за зборную Беларусі на многіх міжнародных турнірах. Пазней ён працаваў трэнерам-выкладчыкам, узначаліў мясцовую СДЮШАР па водных лыжах імя М. Генава. Крыху больш года пазней былы вадналыжнік кіраваў развіццём фізкультуры і спорту ў горадзе нафтахімікаў. Яго тагачасны мэр зрабіла адным са сваіх намеснікаў і разам яны прапрацавалі амаль 4 гады. У беларускай сталіцы В. Дурнова чакае шмат працы, бо неабходна займацца падрыхтоўкай правядзення II Еўрапейскіх гульняў у Мінску і адказваць за ўдалыя выступленні беларусаў на міжнародных стартах.

**Браслаўскі раён**

# Як у даваенны час

■ Станіслаў Раманчук.

**Прадстаўнікі старэйшага пакалення добра памятаюць даваенныя часы, калі заходнія рэгіёны Беларусі былі часткай усходніх крэсаў Польшчы.**

Менавіта тады ў тагачасным павятовым цэнтры Браславе актыўна дзейнічаў на возеры Дрывяты і меў шырокую вядомасць мясцовы яхт-клуб. У азёрным краі былі ідэі адрадзіць яго, а летась кіраўніцтва раёна падпісала адпаведнае пагадненне аб гэтым з пасольствам Польшчы ў Беларусі. Польскае дыппрадстаўніцтва выдзеліла каля 100 тысяч еўра сродкаў на стварэнне на базе мясцовага ФСК “Дрывяціч” дзіцяча-юнацкай парусной школы. Адзін са сталічных клубаў з Мінска, які займаецца парусным спортам, дапамог браслаўчанам набыць патрэбны інвентар. Днямі ў райцэнтр спецыяльны транспарт даставіў 15 сучасных лёгкіх парусных лодак, спецыяльны кацер для трэнераў і нават плывучы прычал. Бязвыплатна перададзены Браслаўскаму раёну таксама спецыяльны ангар для іх захоўвання. З надыходам вясны на беразе возера ў раёне выратавальнай станцыі пачнецца яго мантаж. Для гэтай мэты браслаўчане ўжо адлілі спецыяльную маналітную пліту. Такім чынам парусная школа мае ўсё неабходнае для таго, каб напрыканцы сёлетняй вясны альбо ў пачатку лета пачаць сваю дзейнасць. У ёй, як мяркуецца, спачатку пачнуць займацца каля 30 пачынаючых юных яхтсменаў. У далейшым плануецца прыцягнуць для заплываў пад парусам па вадаёмах і дарослых, аказваць і спецыялізаваныя платныя паслугі. Такі від адпачынку вельмі папулярны ў Еўропе, а ў самым азёрным раёне краіны каля 300 вадаёмаў і тут заўжды былі папулярныя водныя падарожжы на байдарках і лодках.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 09.02.17 | | | | Пятніца 10.02.17 | | | | Субота 11.02.17 | | | | Нядзеля 12.02.17 | | | | Пан.13.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -13 | -13 | -8 | -12 | -13 | -11 | -6 | -7 | -7 | -9 | -6 | -7 | -8 | -8 | -7 | -8 | -9 | -11 | -9 |
| Ціск | 767 | 767 | 768 | 767 | 767 | 767 | 767 | 767 | 767 | 766 | 766 | 766 | 766 | 766 | 766 | 766 | 766 | 766 | 766 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-У | 1 У | 2 Пн-У | 1 У | 2 Пн | 3 Пн-У | 4 Пн-У | 2 Пн-У | 2 Пн | 2 Пн-У | 3 У | 2 Пд-У | 1 Пд-У | 0 ШТЛ | 1 У | 1 Пд | 1 Пд-У | 1 У | 1 Пд |
| Вільготнасць | 81 | 83 | 70 | 87 | 85 | 87 | 81 | 85 | 86 | 90 | 81 | 83 | 83 | 84 | 77 | 79 | 84 | 87 | 83 |

# Аб самым надзённым

## Беларусь актывізавала перамовы аб уступленні ў СГА на фоне растучага ціску Крамля па розных пытаннях




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Дагэтуль беларускае кіраўніцтва не хацела гэтага, бо па правілах СГА дзяржаве нельга ўмешвацца ў многія эканамічныя працэсы свабоднай канкурэнцыі, у прыватнасці падтрымліваць на плыву субсідыямі гаротныя айчынныя калгасы. Аднак цяпер сітуацыя вакол і ўнутры нас імкліва мяняецца, асабліва пасля зняцця заходніх санкцый.**

Напрыканцы студзеня вечарам у адной з выніковых штотыднёвых аналітычных праграм “Главный эфир” на тэлеканале “Беларусь 1” прагучала сенсацыйная заява. Даволі дасведчаны спецыяліст, старшыня Беларускай гандлёва-прамысловай палаты Уладзімір Улаховіч пацвердзіў, што наша краіна можа ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю ўжо ў канцы 2017 года. Як вядома, беларусы адзіныя нават сярод партнёраў па ЕАЭС не былі прадстаўлены ў ёй, а для параўнання ў СГА (у ёй налічваецца зараз 164 дзяржавы свету і асобны член Еўрасаюз) Кыргызстан прынялі яшчэ ў 1998 годзе. Ды і нашы суседзі расіяне ўжо хутка 5 гадоў, а казахі другі год жывуць і гандлююць па новых правілах і законах.Таму яшчэ летась вясной беларускі лідар даручыў актывізаваць падобныя перамоўныя працэс. Дагэтуль беларускае кіраўніцтва не хацела гэтага, бо па правілах СГА дзяржаве нельга ўмешвацца ў многія эканамічныя працэсы свабоднай канкурэнцыі, у прыватнасці падтрымліваць на плыву субсідыямі гаротныя айчынныя калгасы. Аднак цяпер сітуацыя вакол і ўнутры нас імкліва мяняецца, асабліва пасля зняцця заходніх санкцый. Дайшло да таго, што Еўрапарламент днямі прагаласаваў за адмену квот на пастаўкі беларускага тэкстылю ў ЕС. У самой жа Беларусі льготнага крэдытавання будаўніцтва жылля не будзе, а неўзабаве поўнасцю адменяць абавязковы продаж валютнай выручкі.

З іншага боку нам патрэбна членства ў СГА, бо другі год ніяк не можам дамовіцца з Расіяй аб справядлівых цэнах за газ, за які мы перасталі плаціць па расійскіх завышаных коштах яшчэ летась. У сваю чаргу Крэмль урэзаў нам пастаўкі нафты з 3-га квартала і ўвогуле ўсё болей незадаволены пацяпленнем адносін афіцыйнага Мінска з Брусселем і Вашынгтонам. Напэўна, Масква найбольш пакрыўдзілася на нас за адмову размясціць расійскую авіябазу на беларускай тэрыторыі, а таксама за адмову ўдзельнічаць у расійскіх антысанкцыях дзяржавам Захаду і за працяг усебаковага супрацоўніцтва беларусаў з Украінай. Цяпер наша краіна на нявызначаны тэрмін прадоўжыла дзеянне крыху павышаных тарыфаў на транзіт нафты па сваёй тэрыторыі.

Пакуль жа альтэрнатыўнымі крыніцамі пастаўак замест расійскай нафты магла б стаць сыравіна з Азербайджана і Ірана, але гэта даволі дорага, хоць А. Лукашэнка даручыў іх шукаць. Дарэчы, і зараз Беларусь у пэўнай ступені працуе па прынцыпах СГА, бо прыкладна так пабудавана дзейнасць у Мытным саюзе і ў самой ЕАЭС. Іншая справа, што эфектыўнасць беларускага знаходжання ў саюзе постсавецкіх краін, дзе дамінуе Расія, нізкая. Наш тавараабарот у ЕАЭС два гады падаў, а расійскія партнёры не даюць нам нават абяцаныя раней крэдыты. А вось іншы наш важны гандлёвы партнёр Еўрасаюз сёлета афіцыйна пацвердзіў сваю зацікаўленасць, каб Беларусь, як мага хутчэй, далучылася да СГА.

Сапраўды, еўрапейцы зацікаўлены, каб у нас нармальна развівалася эканоміка, бо доля ЕС у беларускім знешнегандлёвым таваразвароце, хоць і скарацілася апошнім часам, але перавышае 25 %. Еўрапейскія эканамісты справядліва лічаць, што далучэнне беларусаў да гэтай міжнароднай уплывовай гандлёвай арганізацыі дапаможа нам хутчэй мадэрнізіраваць айчынныя заводы і фабрыкі, палепшыць інвестыцыйны клімат, паспрыяе дыверсіфікацыі экспарту Беларусі і зробіць больш празрыстымі і перадавымі асноўныя заканадаўчыя акты. Таксама гэта дапаможа нашай краіне хутчэй выйсці на траекторыю ўстойлівага развіцця і росту эканомікі, створыць новыя працоўныя месцы. Безумоўна, будуць пагрозы для асобных беларускіх вытворцаў з-за ўзрослай канкурэнцыі, але ж выйграе і насельніцтва, бо вырасце паток замежных тавараў і знізіцца цэны на іх.

Ніхто не будзе аспрэчваць, што з уступленнем у СГА яшчэ меней розных гандлёвых бар’ёраў стане на шляху прадаж беларускіх тавараў на замежных рынках, маючы пры гэтым экспартаарыентаваную эканоміку. Праўда, калі нам адчыняць дзверы для свабоднага продажу беларускай прадукцыі, то і мы абавязаны будзем гэта зрабіць. Аднак плюс для Беларусі будзе, калі на рашаючых перамовах аб уступленні ў СГА мы даб’ёмся для сябе статусу краіны з пераходнай эканомікай, як гэта зрабілі кітайцы тэрмінам на 14 гадоў. У выніку за тры пяцігодкі ў Паднябеснай кітайскі ВУП вырас роўна ў 4 разы.

У Беларусі ж у мінулым 2016 годзе айчынны ВУП скараціўся яшчэ на 2,6 %, хоць першапачаткова прагназаваўся невялікі эканамічны рост. На гэты год беларускія ўлады таксама разлічваюць, што рэцэсія спыніцца, а эканоміка ажыве. І гэта можа быць рэальна, калі прадоўжыцца рост сусветных цэн на нафту, а беларусам удасца дамовіцца з Расіяй па спрэчных пытаннях з пастаўкамі энерганосьбітаў і захаваецца для нас спрыяльны знешнепалітычны фон. Пакуль жа прадстаўнічая беларуская дэлегацыя на працягу амаль тыдня ў Жэневе вяла важныя перамовы па ўзгадненні ўмоў уступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Само жыццё прымушае, каб беларусы далучыліся да глабальнай інтэграцыі і пачалі наспеўшыя рэформы ў рэальным сектары эканомікі.

## Дзень за днём

**Другі год запар ВУП Беларусі знізіўся летась на 2,6 %. З 2015 года беларуская эканоміка страціла 28,6 млрд. долараў даходаў. У сярэдзіне зімы насмерць замерзлі 47 беларусаў. Першае ядзернае паліва на БелАЭС даставяць у канцы 2018 года. Беларусь перанесла тэрмін сертыфікацыі імпартнай бытавой тэхнікі з 1 лютага на 1 верасня. На Дзень канстытуцыі 15 сакавіка апазіцыя пачала рыхтаваць "марш тунеядцаў" за адмену Дэкрэта № 3. Міністэрства адукацыі забараніла бацькоўскім камітэтатам збіраць грошы на школы. Беларусь з Латвіяй сумесна падалі заяўку аб правядзенні чэмпіянату свету-2021 па хакеі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Выхад з ЕС пасля няпростых перамоў, як запэўніла прэм'ер-міністр Тэрэза Мэй, дапаможа краіне стаць адным з лідараў сусветнага гандлю і развітога бізнесу.

**Германія.** Чарговыя ўсеагульныя выбары ў краіне прызначылі на нядзелю 24 верасня, па апытаннях вядучай палітычнай сілай (38 %) застаецца партыя ХДС на чале з А. Меркель.

**ЗША.** Новы міністр абароны генерал Д. Мэтціс заявіў, што калі б сёння не было НАТО, то нам трэба было б яго стварыць, Пуціна хутка чакае горкае расчараванне на гэты конт.

**Францыя.** На 3-е месца па папулярнасці перад прэзідэнцкімі выбарамі выйшаў услед за Ле Пен і кандыдатам ад правых Ф. Фійонам мэр горада Эненбамон Эмануэль Макрон.

**Малдова.** Новы прэзідэнт І. Дадон у Маскве заявіў аб гатоўнасці адмяніць пагадненне аб асацыяцыі з ЕС дзеля супрацоўніцтва з ЕАЭС, аднак парламент і урад супраць гэтага.

**Літва.** Палітолаг І. Мелянас заявіў, што з-за імклівага пагаршэння адносін Масквы і Мінска выраслі пагрозы захавання беларускай дзяржаўнасці і гэтай самастойнай краіны.

**Украіна.** З-за недахопу грошай у Харкаўскай вобласці на граніцы з Расіяй прыпынілі будаўніцтва загараджальных пабудоў сучаснай ахоўнай сцяны "Еўрапейскі вал".

**Расія.** Лідар "Справядлівай Расіі" С. Міронаў, як паведаміла "Независимая газета", не пойдзе на новыя прэзідэнцкія выбары ў адрозненне ад У. Жырыноўскага і Г. Зюганава.

**Гамбія.** Пасля паражэння на прэзідэнцкіх выбарах 51-гадовы прэзідэнт з 1994 года Ях'я Джамме адмовіўся перадаць пасаду апазіцыянеру Адаму Берроу, які перамог.

**Іспанія.** Паліцыя затрымала ў Барселоне па ордэру ФБР і Інтэрпола 31-гадовага расійскага праграміста С. Лісава па падазрэнні ў ажыццяўленні хакерскіх атак на ЗША.

**Іран.** Больш 30 пажарных загінулі пад заваламі згарэўшага і рухнуўшага 17-павярховага гандлёвага цэнтра Plasko, самага высокага ў Тэгеране, там пацярпела больш 200 чалавек.

**Італія.** У правінцыях Лацыо, Абруццо і Марке адбыліся за некалькі гадзін 4 магутныя землятрусы сілай больш 5 балаў, раней так моцна краіну трэсла летась летам і восенню.

**Аўстрыя.** Калі пацвердзяцца абвінавачванні ў допінгу WADA, то ўсе каманды Расіі трэба адхіліць ад Алімпіяды-2018, як прапанаваў экс-трэнер зборнай РФ па біятлоне В. Піхлер.

**Японія.** Услед за карэйскімі кампаніямі LG і Samsung буйная японская карпарацыя Soni спыніла вытворчасць тэлевізараў 3D з магчымасцю прагляду аб'ёмных відэа.

**Аўстралія.** Сербскі тэнісіст, 6-разовы пераможца турніра Australian Open Н. Джокавіч сенсацыйна прайграў у другім раўндзе 117-й ракетцы свету з Узбекістана Д. Істоміну.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск**. Наша эканоміка, як пацвердзіў эксперт па фінансах В. Іасуб, у глыбокай рэцэсіі, падзенне прадоўжыцца і сёлета трэці год запар, такога няма нідзе болей у свеце.

**Стаўбцы.** Газета "Звязда" адмовілася надрукаваць даволі крытычны артыкул дэпутата парламента па мясцовай акрузе № 70 Алены Анісім пра існуючыя ў краіне праблемы.

**Мінск.** У Крамлі разлічваюць, як папярэдзіў палітолаг В. Карбалевіч, на нармалізацыю адносін з Захадам і таму не пойдуць на далейшую дэстабілізацыю абстаноўкі ў Беларусі.

**Жодзіна.** Вугальная кампанія "Кузбасразрэзвугаль" заключыла кантракт з БелАЗам на пастаўку ў 2017 годзе 70 беларускіх вялікагрузных самазвалаў коштам 116 млн. долараў.

**Мінск.** Палітолаг Д. Мельянцоў заявіў, што СМІ Расіі сталі вельмі нервова рэагаваць нават на нязначныя падзеі ў нас і раздуваюць фобіі, што Беларусь "зыходзіць" на Захад.

**Ліда.** На тэрыторыі раёна літоўская група кампаній ARVI адкрыла сучасны комплекс па вытворчасці мяса індыкоў з камбікормавым заводам з аб'ёмам інвестыцый 30 млн. еўра.

**Мінск.** Не ў Судане, як заявіў былы глава ўрада М. Чыгір, нам трэба шукаць інвестыцыі, а ў Еўропе, бо там перадавыя тэхналогіі, вялікія грошы, ездзіць на форумы ў Давос.

**Слуцк.** Падчас наведвання адной са школ раёна міністр адукацыі Беларусі І. Карпенка падпісаў загад аб новых формах працы педагагічных калектываў па суботах.

**Мінск.** А. Лукашэнка назваў "выццём і ляментам" заявы Расіі аб нашым 5-дзённым бязвізавым рэжыме, даручыў знайсці альтэрнатыву пастаўкам расійскай нафты.

Маладзечна. Следчыя пачалі праверку ФАПа ў вёсцы Цюрлі, дзе пасля ін'екцыі ўколу з антыбіётыкамі памерла захварэўшая на ВРВІ 31-гадовая мясцовая жыхарка.

**Гомель**. Гамяльчанін Арцём Бенько запатрабаваў ад падатковай інспекцыі прадаставіць калькуляцыю расходаў на сацыяльныя паслугі дзяржавы ў 2015 годзе, за што патрабуюць 360 руб.

**Рагачоў.** Следчы камітэт пацвердзіў, што 54-гадовая беспрацоўная 2 гады гараджанка, якая павесілася ў райцэнтры, не атрымоўвала паведамлення аб падатку на "дармаедаў".

**Баранавічы.** Пасля прайгранага суда з-за васьмі прайшоўшых летась праверак яго фірмы скончыў жыццё самагубствам мясцовы бізнесмен, бацька семярых дзяцей.

**Мінск.** За адзін дзень таргоў на Беларускай універсальнай таварнай біржы рэалізавалі ў ЕС лесаматэрыялаў, прадукцыі іх перапрацоўкі і шчапы на рэкордныя 7,2 млн. еўра.

**Брэст.** Раніцай у горадзе на пешаходных пераходах збілі двух брэстчан, спачатку 12-гадовага школьніка, праз 5 хвілін у тым жа мікрараёне кіроўца наехаў на жанчыну.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Гарадок.** Абласны эканамічны суд даручыў да жніўня гэтага года завяршыць працэдуру ліквідацыі мясцовага банкрута райаграпрамснаба, без працы застанууца 150 чалавек.

**Наваполацк.** Збор на фінансаванне дзяржаўных расходаў уплацілі ў сярэдзіне зімы толькі 168 гараджан, хоць у спіс "дармаедаў" уключылі больш 7 тысяч наваполачан.

**Паставы.** Два прадпрыемствы раёна – "Паставымэбля" і Варапаеўскі ДАК увайшлі ў склад новага дзяржаб'яднання "Віцебскпрам", створанага па рашэнні ўлад вобласці.

**Браслаў.** На мясцовым сырзаводзе, філіяле Глыбоцкага МКК пасля рэканструкцыі асвоілі выпуск звыш 40 відаў сыроў, рэзка павялічыліся аб'ёмы адгрузкі прадукцыі ў Маскву.

**Глыбокае.** Каля касцёла св. Ганны ў Мосары фінішавала арганізаванае МТЗ ралі новых трактароў па бездарожжу амаль 12 км з суседняга Пастаўскага раёна "Парыж-Мосар".

**Полацк.** Па выніках рэспубліканскага конкурсу горад стаў маладзёжнай сталіцай Беларусі, тут сёлета шмат пройдзе акцый, праектаў, сустрэч, фестываляў для моладзі.

**Віцебск.** У новым, бурна растучым мікрараёне абласнога цэнтра Білёва адкрыўся супермаркет гандлёвай сеткі "Веста" плошчай 1660 квадратных метраў, працу ў ім атрымалі 46 чалавек.

**Верхнядзвінск.** У бальніцы памерла ад атраўлення напярэдадні на пажары пенсіянерка-інвалід з вёскі Цясты, за 3 тыдні агонь у вобласці забраў жыцці 18 чалавек, 9 прэстарэлых.

**Орша.** Услед за абласнымі цэнтрамі кампанія МТС запусціла ў горадзе мабільную сувязь новага пакалення 4G з хуткасным інтэрнэтам да 112 Мбіт/с і дадатковымі паслугамі.

**Чашнікі.** Зімовай раніцай на дарозе Орша-Лепель загінула 31-гадовая веласіпедыстка, якая вярталася дамоў пасля дойкі кароў і была збіта іншамаркай, якой кіраваў пенсіянер.

**Докшыцы.** У раёне зарэгістраваны рост дарожна-транспартных здарэнняў, летась тут колькасць загінуўшых на трасах М3, Р86 вырасла з 4 да 9 чалавек, а параненых з 13 да 18.

**Мёры**. Выпускніцу СШ № 2 і Беларускага дзяржмедуніверсітэта Ганну Федуковіч пасля 5 гадоў працы ўрачом-гігіеністам па харчаванні прызначылі галоўным санурачом раёна.

**Шаркаўшчына.** На чарговым пасяджэнні райкама КПБ з удзелам запрошаных былых членаў КПСС у кампартыю прынялі жыхара вёскі Болкалы Барыса Руткоўскага.

**Верхнядзвінск.** Падчас V штогадовага каляднага фестывалю мастацтваў "Падарунак з нябёсаў" на сцэне РДК даў канцэрт сімфанічны аркестр Віцебскай абласной філармоніі.

**Гарадок.** Раніцай у райцэнтры 21-гадовы хлопец падпаліў у двары дома іншамарку Mazda CX-7 бацькі дзяўчыны, з якой той забараніў ухажору сустракацца, пачалося следства.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Мінлясгас: парадак збору грыбоў і ягад для фізічных асоб не змяніўся



■ Кар. БЕЛТА

**Новы Лясны кодэкс не мяняе парадак збору грыбоў і ягад у лясах Беларусі для фізічных асоб. Такая інфармацыя размешчана на сайце Міністэрства лясной гаспадаркі, паведамляе БЕЛТА.**

«Згодна з Лясным кодэксам, грамадзяне маюць права свабодна знаходзіцца на тэрыторыі ляснога фонду і без дазваленчых дакументаў бясплатна ажыццяўляць для задавальнення ўласных патрэб збор дзікарослых ягад, грыбоў, пладоў, арэхаў і іншых (акрамя драўніны) лясных рэсурсаў. Плата за пабочнае лесакарыстанне і нарыхтоўку другарадных лясных рэсурсаў прадугледжана толькі для юрыдычных асоб, індывідуальных прадпрымальнікаў», – гаворыцца ў паведамленні. Пры гэтым нарыхтоўку соку можна весці на ўчастках ляснога фонду, якія вызначаны для гэтых мэтаў юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку, іх структурнымі падраздзяленнямі (лясніцтвамі). Інфармацыя аб месцы знаходжання такіх участкаў ляснога фонду даводзіцца да ўсеагульнага ведама агульнадаступнымі спосабамі (размяшчаецца на афіцыйных сайтах юрыдычных асоб, якія вядуць лясную гаспадарку, у СМІ). Бясплатна на падставе ляснога білета на ўчастках ляснога фонду грамадзяне могуць размяшчаць вуллі і пчальнікі, праводзіць касьбу, выпас жывёлы. Новы Лясны кодэкс змяняе паўнамоцтвы па ўсталяванні таксавага кошту. Да 31 снежня 2016 года таксы за пабочныя лясныя карыстанні і нарыхтоўку другарадных лясных рэсурсаў зацвярджаліся мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі. З уступленнем у сілу Ляснога кодэкса таксы ўсталёўваюцца пастановай Савета Міністраў і прывязаныя да базавай велічыні.

# ФСБ Расіі паабяцала не ўводзіць кантроль на мяжы з Беларуссю

■ nn.by

Як паведамляе ria.ru са спасылкай на Цэнтр грамадскіх сувязяў ФСБ Расіі, увядзенне памежнай зоны ў Смаленскай, Пскоўскай і Бранскай абласцях створана «для барацьбы з транзітнай незаконнай міграцыяй, наркатрафікам і незаконным перамяшчэннем праз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцей».

У ФСБ пры гэтым падкрэслілі, што загад кіраўніка ведамства не накладвае абмежаванняў на свабоду перасячэння дзяржаўнай мяжы грамадзянамі Расіі і Беларусі.

«Устанаўленне памежнай зоны не прадугледжвае ажыццяўлення пагранічнага кантролю асоб, транспартных сродкаў, грузаў, тавараў і жывёл, адкрыцця і функцыянавання пунктаў пропуску праз дзяржаўную мяжу», - сказалі ў ФСБ.

# МНС Беларусі папярэдзіла пра небяспечную гульню сярод дзяцей у сацсетках

**Мінскае абласное ўпраўленне МНС звярнулася да бацькоў падлеткаў з папярэджаннем адносна ўдзелу ў экстрэмальнай гульні «Бяжы ці памры!».**

«Сутнасць гэтай гульні, — тлумачыць у фэйсбуку прадстаўнік ведамства Марына Бінкевіч, – перабегчы дарогу як мага бліжэй перад транспартам, які рухаецца. Гэтая гульня папулярная па ўсёй Расіі і ўжо прыйшла ў Беларусь. Таму і кіроўцам трэба быць вельмі ўважлівымі, калі бачыце дзяцей каля дарогі і ўлічваць той факт, што яны могуць кінуцца бегчы проста пад колы».

Усё часцей здараюцца і суіцыды сярод дзяцей, канстатуе Марына Бінкевіч.

**«Паважаныя бацькі, праверце ўсе сацыяльныя сеткі. Вы чулі пра новыя «трэнды» моладзі — дзеці «купляюць» сваю смерць!»**

Пасля таго, як юны карыстальнік набывае гульнявое прыкладанне, за ім замацоўваецца чалавек, які сочыць за выкананнем заданняў, апошнім з якіх з'яўляецца суіцыд. Прадстаўнік МНС раіць звярнуць увагу на наступныя магчымыя прыкметы ўдзелу ў гэтай гульні:



1. Дзіця не высыпаецца, нават калі рана кладзецца спаць — прасачыце, ці спіць ён самым ранкам.

2. Малюе кітоў, матылькоў, адзінарогаў.

3. Знаходзіцца ў групах, якія змяшчаюць у назве наступнае: «Кіты плывуць уверх», «Пабудзі мяне ў 4.20», f57, f58, «Ціхідом», «Рына», «Няпока», «Мора кітоў», «50 дзён да майго … », хэштэг: домкитов, млечныйпуть, 150звёзд, ff33, d28, хочувигру.

4. Закрыў «Укантакце» доступ да падрабязнай інфармацыі, у перапісцы з сябрамі (на асабістай сцяне) ёсць фразы «пабудзі мяне ў 4.20», «я ў гульні». І зусім ужо страшна, калі на сцяне з'яўляюцца лічбы, пачынаючы ад 50 і менш.

5. Перапісваючыся ў вайбеpe і іншых месенджарах з незнаёмымі людзьмі, якія даюць дзіўныя распараджэнні. Падазроныя хэштэгі: #f53 #f57 #f58 #d28 #морекитов, #тихийдом #хочувигру, # млечныйпуть

У разгары – інфармацыйная суіцыдальная вайна супраць нашых дзяцей, заключае прадстаўнік Мінскага абласнога ўпраўлення МНС.

*naviny.by*

# Землякі апранулі біскупа Буткевіча ў вышыванку



У Браславе ў музеі традыцыйнай культуры 4 лютага адкрылася выстава жывапісных работ з калекцыі настаяцеля каталіцкага прыходу Святой Тройцы ў Друі кс. Сяргея Сурыновіча.

Усе работы – вынік другога Друйскага мастацкага пленэра "Пачаткі", які адбыўся летась.

Выставу, якая ўключыла 38 работ, адкрыў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч - браслаўчанін па нараджэнні. Ён прыехаў у родны горад адмыслова, каб паглядзець выставу і пагутарыць з супрацоўнікамі музея і шматлікімі гледачамі.

*"Не самае важнае – наколькі запатрабаваны творы новых, маладых мастакоў сёння, наколькі поўныя гледачамі залы. Гэта праца і для нашчадкаў, для якіх мастакі ўзнаўляюць вобразы навакольнага свету, захоўваючы традыцыі нацыянальнага мастацтва"*, – падкрэсліў біскуп Віцебскі, які вельмі цікавіцца жывапісам і сам мае невялікую калекцыю работ, натхнёных пейзажамі Браслаўшчыны.

Браслаўчане знаёміліся з палотнамі пад гукі скрыпкі – кіраўнік друйскага струннага аркестра Валянціна Казакевіч падрыхтавала адмысловую праграму для суправаджэння выставы.

Пасля ўрачыстай цырымоніі музейшчыкі запрасілі біскупа на чаяванне і падарылі яму вышытую кашулю-вышыванку, створаную народным майстрам Марыяй Дворскай, і тканы пояс. работы Наталлі Парахневіч, абедзве майстрыхі – супрацоўніцы музея. Асаблівую радасць гаспадароў музея выклікала згода біскупа Буткевіча прымерыць падарунак наўпрост пры іх.

*Паводле krynica.info.*

# "Лепшы тавар Рэспублікі Беларусь" 2016 года – сыр Браслаўскага філіяла "Глыбоцкага МКК"

**Прадукцыя Браслаўскага філіяла "Глыбоцкага МКК" па выніках розных конкурсаў не раз прызнавалася лепшай у краіне. Вось і нядаўна сыр паўцвёрды "Маасдамер Гранд" ад браслаўскага вытворцы стаў пераможцам конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь" 2016 года ў намінацыі "Харчовыя тавары" з прысуджэннем дыплома "Стабільная якасць".**

Конкурс "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь" праводзіцца штогод, пачынальна з 2002 года, па сумеснай ініцыятыве Дзяржстандарту, абласных выканаўчых камітэтаў і Мінгарвыканкама. Пасродкам яго спажыўцы інфармуюцца пра якасныя тавары, прадукцыя прасоўваецца на ўнутраны і міжнародны




рынкі, выяўляюцца новыя ці ў значнай ступені ўдасканаленыя тавары ў параўнанні з раней выпусканымі. Акрамя таго, ажыццяўляецца падтрымка беларускіх вытворцаў, якія выпускаюць канкурэнтаздольную прадукцыю і забяспечваюць апошняй спажывецкі рынак краіны. Усяго па выніках 2016 года лепшымі харчовымі таварамі Беларусі сталі 165 найменняў розных прадуктаў: рыбных, мясных, хлебабулачных, малочных, кандытарскіх, алкагольных. Адных сыроўлаўрэатаў з масавай часткай тлушчу 45 % налічылася 14. Сярод іх і наш сыр "Маасдамер Гранд" – адзін з самых прадаваных сыроў браслаўскай вытворчасці.

*Паводле braslav-star*

# 16 лютага – Дзень прафілактыкі інфекцый, якія перадаюцца палавым шляхам

■ **Дыяна Шыльчонак,**
*фельчар-валеолаг.*

**Інфекцыі, што перадаюцца пераважна палавым шляхам (ІППШ) – гэта група інфекцыйных захворванняў, якія перадаюцца галоўным чынам пасродкам палавога кантакту ад хворага чалавека да здаровага. Да ІППШ адносяць сіфіліс, ганарэю, хламедыйную і мікаплазменную інфекцыі, урагенітальны трыхаманоз, герпетычную, папіломавірусную інфекцыі палавых органаў.**

Апроч гэтага, палавым шляхам перадаецца ВІЧ-інфекцыя, канчатковай стадыяй якой з'яўляецца СНІД (сіндром набытага імуннага дэфіцыту). Акрамя таго пры палавых кантактах апроч вышэй пералічаных інфекцыйных захворванняў перадаюцца вірусныя гепатыты В і С, а таксама некаторыя іншыя захворванні (кароста, лабковыя вошы, кантагіёзны малюск). На сённяшні дзень вядома 30 захворванняў, якія могуць перадавацца палавым шляхам.

**Распаўсюджанасць інфекцый, якія перадаюцца палавым шляхам**

Па адзнаках Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), штогод ва ўсім свеце больш за 340 мільёнаў мужчын і жанчын ва ўзросце 15-49 гадоў захворваюць ІППШ, на зямным шары кожны шосты жыхар пакутуе якой-небудзь хваробай, што перадаецца палавым шляхам.

У апошнія гады ў краінах СНД і Рэспубліцы Беларусь адзначаецца тэндэнцыя да зніжэння тэмпаў росту захворвання ІППШ, што звязана са значнымі высілкамі аховы здароўя і ўсяго грамадства ў цэлым. Шырокі распаўсюд ІППШ у 90-х гадах было абумоўлена сацыяльна-эканамічнымі чыннікамі. Гэта рост наркаманіі, сэксуальных паслуг, падзенне маральнасці ў грамадстве, змена сэксуальных паводзін моладзі і распаўсюджанасць практыкі рызыкоўных палавых паводзін, недахоп сродкаў індывідуальнай прафілактыкі (прэзервbooтывы) і іншае. Рызыкоўныя сэксуальныя паводзіны – гэта форма сэксуальных паводзін чалавека, якая павялічвае рызыку заражэння ІППШ: ранні пачатак палавога жыцця, няведанне як абараніць сябе ад палавых інфекцый, частая змена і адсутнасць сталага сэксуальнага партнёра, выпадковыя палавыя кантакты, невыкарыстанне прэзерватываў і іншых метадаў абароны.

Аднак, нягледзячы на ўдасканаленне метадаў дыягностыкі і лячэння, у Рэспубліцы Беларусь на сённяшні дзень захоўваецца высокі ўзровень захворвання ІППШ, а сярод захварэлых пераважаюць асобы ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў (60 - 70%).



Неабходна памятаць, што ў першую чаргу прафілактыка інфекцый, якія перадаюцца палавым шляхам, залежыць ад унутраных маральных усталёвак (арыентацыі на пазнейшы пачатак палавога жыцця, адмова ад дашлюбных і пазашлюбных інтымных адносін). Матывам пачатку палавога жыцця павінна выступаць уласнае ўсвядомленае рашэнне, а не ціск з боку партнёра, страх яго страціць, жаданне дагадзіць яму і захаваць адносіны. У падобных выпадках неабходна ясна і выразна абмеркаваць інтымны бок адносін і, у выпадках нежадання пачынаць палавое жыццё з дадзеным партнёрам адказаць адмовай.

Такім чынам, нягледзячы на досыць шырокі распаўсюд ІППШ і ВІЧ-інфекцыі, выкананне найпростых рэкамендацый (адмова ад ранняга пачатку палавога жыцця, сталы палавы партнёр, выключэнне выпадковых палавых кантактаў, выкарыстанне прэзерватыва і іншых сродкаў індывідуальнай абароны) гарантуе бяспеку інтымнага жыцця і захаванне здароўя.

# Навучэнцы, выпускнікі і педагогі адзначылі 50-гадовы юбілей Дзеркаўшчынскай сярэдняй школы

■ **Уладзімір Скрабатун**

**У мінулую суботу ў Дзеркаўшчынскай сярэдняй школе адбылася ўрачыстая вечарына – свята з нагоды 50-гадовага юбілею, калі вучні ў 1967 годзе пайшлі вучыцца ў новаўзведзены будынак школы. Прыйшло і прыехала шмат гасцей, выпускнікоў, бадай усіх, што былі, выпускаў школы.**

Гісторыя пісанай народнай адукацыі на Глыбоччыне мае пад тры стагоддзі, але яна ў цэлым складаецца і з гісторыі кожнай асобнай школы раёна.

Школа ў Дзеркаўшчыне існавала здаўна. Вядоўцы свята згадвалі, што “за польскім часам” у Дзеркаўшчыне таксама была школа, дзе навучаліся на польскай мове. Потым, з прыходам савецкай улады, у Дзеркаўшчыне была 7-класовая, затым 8-класовая і, нарэшце, сярэдняя, школы.

Наведаць мерапрыемства ў Дзеркаўшчыне за кампанію аўтару гэтых радкоў прапанаваў Даніл Ермаковіч, які з тых краёў родам. Без ваганняў пагадзіўся – нагода зрабіць здымкі для газеты, хоць і з самага звычайнага шэраговага мерапрыемства.

Аднак арганізацыя мерапрыемства пераўзышла ўсе чаканні! Выданты сцэнар і рэжысура вечарыны! Усё адбывалася вельмі цікава, захапляльна! Дапамагалі яе арганізаваць выпускнікі розных гадоў!

Можна толькі ўявіць, колькі высілкаў гэта каштавала арганізатарам. Сабраліся выпускнікі школы з усіх куткоў Беларусі. Бадай, што, усе выпускі школы, пачынаючы ад 1967 года. Пры гэтым кожны выпуск падрыхтаваў свой сцэнічны нумар. Танчылі і спявалі песні сваёй школьнай маладосці, песні далёкага дзяцінства. А якая радасць праз 30-40-50 гадоў сустрэць сваю першую настаўніцу, падараваць ёй кветкі.

Сустрэча пакаленняў: справа – першыя выпускнікі 1967 года Дзеркаўшчынскай сярэдняй школы, злева – выпускнікі 2016 года. *Фота Ул. Скрабатуна.*



Стандартная спортзала школы была цалкам запоўненая, не было ніводнага вольнага сядзячага месца, шмат прысутных месціліся і ў праходах. *Фота Ул. Скрабатуна.*

І сённяшні педагагічны калектыў не забыўся на сваіх ветэранаў, якія прысутнічалі на вечарыне і атрымалі віншаванні і кветкі ад сваіх даўніх вучняў.

На юбілейную вечарыну, ад кіраўніцтва Глыбоцкага раёна прыехала Таццяна Вячаславаўна Гаўрылава, кіраўнік аддзела адукацыі, спорту і турызму, колішняя выпускніца Дзеркаўшчынскай СШ.

Таццяна Вячаславаўна выступіла з прывітальнай прамовай, уручыла многім педагогам і дырэктару школы Іосіфу Уладзіміравічу Анашкевічу Падзякі за плённую працу ад імя Глыбоцкага райвыканкама. Сам дырэктар таксама ўганараваў Граматамі лепшых працаўнікоў школы.

Трэба адзначыць, што некаторыя прысутныя, на заканчэнні вечарыны, выказвалі словы падзякі Таццяне Вячаславаўне за добрую беларускую мову. Сама ж выпускніца прыняла непасрэдны ўдзел і ў тэатралізаванай пастаноўцы свайго выпуска.

Дзякуючы выдатнаму сцэнару атрымалася цудоўнае свята для выпускнікоў усіх пакаленняў Дзеркаўшчынскай школы, а таксама і свята для іншых жыхароў самой Дзеркаўшчыны, у якой ёсць свая школа.

# Яхт-клуб у Браславе пачне працу ўжо сёлета

Гісторыя ветразнага спорту на Браслаўшчыне мае даўнія карані. Шматлікія мясцовыя жыхары старэйшага пакалення памятаюць, што ў даваенны перыяд на воз. Дрывяты дзейнічаў яхт-клуб, дзе пад наглядам інструктара кожны ахвотнік мог прайсціся пад ветразем па водной роўнядзі, палюбавацца заходам з кавярні на вадзе. Гэта месца было любімым для адпачынку не толькі ў браслаўчан, сюды з задавальненнем прыязджалі госці з Літвы, Польшчы і Расіі.

Апошнія некалькі гадоў у раёне ішлі гутаркі аб аднаўленні гэтага захапляльнага віду спорту. Пра яхт-школу марыць і цяперашняе маладое пакаленне браслаўчан. У сакавіку 2016 года паміж Браслаўскім райвыканкамам і Пасольствам Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь было падпісаная дамова аб стварэнні ў Браславе ветразнай школы на базе РФСК “Дрывяціч”.

Як паведаміў намеснік начальніка адукацыі, спорту і турызму райвыканкама Станіслаў Астаноўка, партнёрам-пасрэднікам паміж двума бакамі праекта з’яўляецца ГА “Ротары клуб Мінск сіці”, якое атрымала ад дыппрадстаўніцтва Польшчы больш за 92 тысячы еўра для дапамогі Браслаўшчыне ў стварэнні матэрыяльнай базы ветразнай школы.



На мінулым тыдні спецмашына з Мінска даставіла ў Браслаў 15 ветразных лодак, катэр для трэнера і іншае абсталяванне.

Каштоўны груз сустракалі старшыні райвыканкама і райсавета Уладзімір Дранеўскі і Ніна Пучынская, прадстаўнікі польскага пасольства ў Мінску.

Такім чынам, дамова па стварэнні браслаўскай ветразнай школы знайшла выражэнне ў пэўных дзеяннях. Акрамя навучальных лодак, ГА “Ротары клуб Мінск сіці” таксама закупіла плывучы прычал і ангар для захоўвання абсталявання. Усё гэта бязвыплатна перададзена Браслаўскаму раёну. У сакавіку плануецца пачаць зборку ангара, маналітны падмурак для якога ўжо заліты і ўсталяваны на беразе Дрывят побач выратавальнай станцыі.

Падчас працоўнай сустрэчы прадстаўнікі райвыканкама і польскага пасольства абмеркавалі працоўныя моманты рэалізацыі праекта і дамовіліся, што ў канцы вясны ці пачатку лета школа, у якой змогуць адначасова займацца каля 30 будучых яхтсменаў, пачне сваю працу. Таксама ў планах клуба - адкрыццё секцыі для дарослых і аказанне спецыялізаваных платных паслуг.

*Паводле braslav-star*

# Настае час рыхтавацца і да ацяпляльнага сезона – 2017

■ **Рацьковіч А. Ю.,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА.*

Ацяпляльны сезон у разгары, тэмпература вонкавага паветра вельмі зменлівая – ад дадатнай з мокрым снегам і дажджом, да рэзкага пахаладання - 20°С і ніжэй. Што моцна ўскладняе ўмовы эксплуатацыі цеплавыкарыстальных усталёвак і цеплавых сетак. Хацелася адзначыць, што за мінулы час ад пачатку АЗП вялікіх парушэнняў у цеплазабеспячэнні аб’ектаў спажыўцоў не было. Хоць маюцца некаторыя недахопы ў цеплазабеспячэнні, не заўсёды вытрымліваецца цеплавы рэжым паводле тэмпературнага графіка.

Так пры дадатных тэмпературах вонкавага паветра спажыўцам цеплавой энергіі і энергаснабжаючым арганізацыям, якія маюць на балансе цеплавыя сеткі, неабходна праводзіць рэгулярна агляды стану цеплавой ізаляцыі вонкавых цеплавых сетак надземнай пракладкі, пры неабходнасці праводзіць бягучыя рамонты. Адмысловую ўвагу надаваць недапушчэнню затаплення адталымі водамі цеплавых камер і каналаў цеплавых сетак падземнай пракладкі. Нядбайнае стаўленне да гэтай праблемы можа прывесці да звышнарматыўных страт цеплавой энергіі, разбурэння цеплавой ізаляцыі, страце яе цеплаізаляцыйных уласцівасцей, як следства падвышанай карозіі трубаправодаў і заўчасны вывад іх з эксплуатацыі.

У той час пры рэзкім пахаладанні, калі сярэднясутачная тэмпература вонкавага паветра ніжэй за -15ºС, спажыўцы цеплавой энергіі павінны арганізаваць кругласутачнае дзяжурства адказных працаўнікоў эксплуатацыйных службаў і забяспечыць іх сувязь з дзяжурным персаналам энергаснабжаючых арганізацый (дыспетчарскімі службамі) – патрабаванні пункта 5.2.4 ТКП 388-2012 “Правілы падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергаснабжаючымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі”

Таму неабходна ўжо зараз прыступіць да распрацоўкі арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да наступнага ацяпляльнага сезона, улічваючы ўсе негатыўныя моманты ў праходжанні цяперашняга ацяпляльнага перыяду.

У наш час вельмі актуальныя пытанні эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў.

Пры правядзенні планавых абследаванняў энергаснабжаючых арганізацый і спажыўцоў цеплавой энергіі энергаінспекцыяй філіяла Энерганагляд РУП “Віцебскэнерга” ў перыяд праходжання ацяпляльнага сезона будзе праводзіцца цвёрды кантроль за выкананнем рашэнняў аператыўных груп аблвыканкама і райвыканкама.

Распродаж нядорага: бочкі (бутлі) пластыкавыя на 30 л для дамашніх віназдзелаў, пітной вады, для спіртных напояў, вады ў лазню, пчалаводам для захоўвання мёду, для парнікоў і іншых гаспадарчых патрэб. УНН391054834. Т.:8029-286-65-32 (мтс)[+]

### Куплю іншае:

Бочку 6-8 кубоў, пад каналізацыю. Т:8029-286-65-32(мтс)[+]

Таўру, двутаўру. Т.:8029-714-00-74 (мтс)[+]

### Пасажырскія перавозкі:

Заказныя пасажырскія перавозкі, семінары, вяселлі, экскурсіі. Камфартабельны аўтобус 8-15 месц, наяўны і безнаяўны разлік. ІП Шабан .В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад 16.12. 2012 да 16.12.2022г. Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)[+7]

Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022г.Т.:8033-646-21-99 (МТС),8029-190-21-99 (В)[+7]

### Грузаперавозкі:

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т. УНН 391054834 выд. г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс)[+]

МАЗ з адкрытым паўпрычэпам, 13,5м, 20т. УНН 391054834, выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8-029-286-65-32 (мтс)[+]

УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-892-87-21 (мтс)[+]

Перавозкі грузаў папутна з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т), а таксама любыя іншыя напрамкі. УНН 391054834. Т.:8029-286-65-32 (мтс)[+]

### Паслугі:

Паслугі экскаватара-пагрузчыка, усе віды земляных работ, траншэі, сажалкі і інш. Наяўны і безнаяўны разлік. Уборка снега. УНН 391531670. Т.: 714-44-99(мтс)

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35[+2]

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае. УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35[+2]

Адкрылася новая аўтамыйка, вул. Энгельса, 41. УНП391536843. Т.: 8033-370-80-00 (мтс)[+4]

Дапамога ў пакупцы аўтамабіля ў Беларусі, Расіі, Літве. Праверка электронным таўшчынямерам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-120-82-52(в)[+]

Паслугі па рубцы зрубаў.УНН391054834. Т.: 8029-892-87-21 (мтс)[+]

Кваліфікаваны спецыяліст выканае: рамонт, замена і ўстаноўка сантэхабсталявання; зборка, устаноўка душавых кабінак і інш.; мантаж ацяплення, вадаправода і каналізацыі. Рамонт, падключэнне і ўстаноўка эл\абсталявання. Пластык, ламінат і інш. Хутка і якасна! УНП 391532784, ІП Сауліч В.В. Т:+37529-218-38-66 (мтс)[+5]

Паслугі электрыка. УНП 391532784. Т.:+37529-218-38-66 (мтс)[+5]

**Паслуга «Дамашні майстар» (100 работ па дому і офісу). Эл\мантажныя работы**: мантаж, замена і выяўленне няспраўнасцяў эл\праводкі, свяцільнікаў, разетак, выключальнікаў, УЗО, эл\званкоў, бра і інш. Замена лічыльнікаў эл\энергіі. **Сантэхнічныя работы**: зборка і ўстаноўка душавых кабін, унітазаў, умывальнікаў, ваннаў. Урэзка кухонных мыек, мантаж трубаправодаў ацяплення, халоднай і гарачай вады. **Устаноўка і мантаж бытавой тэхнікі**. **Зборка і рамонт мэблі**: навешванне карнізаў, жалюзі, карцін, кранштэйнаў пад тэлевізар і інш. Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. УНН 391530077 ад 18.12.2014г. Т.: 8-029-816-03-64, 8-029-379-77-94*

Рэстаўрацыя ваннаў, эмаль, колер на выбар. УНП 391240879 ІП Пазняк Н.Н. Т.: 8-033-306-29-89, 802156-5-38-59 Глыбокае*

Рамонт грузавых аўтамабіляў, прадастаўленне рамонтных месц. Такарныя, слясарныя, зварачныя работы. УНП390477474. Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Бур і К», Г. Глыбокае, вул. Чыгуначная, 14. Т.: 8-029-595-30-75[+10]

Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў на даму. Гарантыя, якасць, кансультацыя. УНП391072281. Т.: 8-033-601-36-06 (мтс), 8-029-250-64-34(в)**

Кузаўны рамонт любой складанасці:: узнаўленне аварыйных аўтамабіляў; рыхтоўка і расцяжка бітых аўто; зварачныя работы любой складанасці (замена арак і парогаў, падварка глушыцеляў і днішча); антыкаразійная апрацоўка днішча і схаваных поласцяў кузава (пушачным салам, масцікай, гравітэксам); рамонт хадавой часткі аўто. УНП391536274. Т.: +37529-517-66-43 (мтс)***

Вырабляем і прадаём калодзезныя і каналізацыйныя кольцы розных памераў, фундаментныя блокі. Дастаўка і ўстаноўка. УНП390424290. Т.: 8-029-897-35-15**

Акажу будаўнічыя паслугі: мантаж сцен, паталкоў з ГКП, ПВХ, МДФ, штукатурна-малярныя работы, сталярныя работы, аддзелка мансард, лесвіцы, эл\каміны, лазні пад ключ, сантэхнічныя і многія іншыя работы. УНП391534031. Т.: 816-06-74(мтс)

Будаўнічыя работы: укладка пліткі, ламіната, паркетнай дошкі, устаноўка дзвярэй, акон. Гіпсакардон, шпаклёўка, штукатурка, афарбоўка. Уцяпленне фасадаў, караед. Кровельныя работы і інш. будаўнічыя работы. ІП391076644. Т.: 896-50-14(мтс)****

### Шукаю працу:

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку, ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары.Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак. Т.: 595-48-68[+20]

Масаж дарослы і дзіцячы, антыцэлюлітны масаж. Масаж пасля траўмаў і інсультаў. Медадукацыю і вопыт маю. Т.: 8-029-717-69-38**

### Прапаную працу:

Патрабуецца рабочы на дзялянку ў лесе, 1 гадзіна + 1 рубель. Т.:8-029-892-87-21 (мтс)[+]

Прадаўца ў сэканд-хэнд. Тэл.: 8 (029) 514-44-05

Патрабуецца на пастаянную работу рабочы на будоўлю. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8029-286-65-32 (мтс)[+]

Патрабуецца жанчына рознарабочая. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т:8-029-286-65-32 (мтс)[+]

Патрабуецца майстар (спецыяліст) для ўстаноўкі страпільнай сістэмы на даху. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-714-00-74 (мтс)[+]

Патрабуецца рознарабочы, аплата пачасавая, 70 кап.\гадзіна. Т.: 8-033-363-94-37[+]

Патрабуецца парыкмахер.Т.:8029-297-77-95

Патрабуецца плітачнік-абліцоўшчык (майстар для ўкладкі пліткі абліцовачнай у ваннах і туалетах) УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8-029-286-65-32 (мтс)[+]

Патрабуецца дзяўчына, не старэй 35 год, для працы ў магазіне (улік тавараў, рэвізій). УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8029-286-65-32 (мтс)[+]

### Згуба:

Знойдзена звязка ключоў з чыпам, у Мосары, на РАЛІ. Т.: 8-033-306-25-42

**Па пытаннях РАЗМЯШЧЭННЯ РЭКЛАМЫ на старонках «Вольнага Глыбокага»** звяртацца па тэлефоне МТС: **8-029-813-99-99 (Наталля)**

## Нацбанк з 15 лютага зніжае стаўку рэфінансавання да 16 працэнтаў гадавых

Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей Нацбанка. З 15 лютага зніжаюцца стаўка рэфінансавання - з 17 працэнтаў да 16 працэнтаў гадавых і стаўкі па пастаянна даступных і двухбаковых аперацыях Нацыянальнага банка па падтрымцы бягучай ліквіднасці банкаў - з 22 працэнтаў да 20 працэнтаў гадавых. У Нацбанку растлумачылі, што адпаведныя рашэнні былі прыняты праўленнем і камітэтам па манетарнай палітыцы Нацыянальнага банка 7 лютага зыходзячы з існуючай у рамках прагнозу дынамікі росту спажывецкіх цэн, аналізу сітуацыі на валютным і дэпазітным рынках, стану знешняга гандлю і плацежнага балансу. Асноўны ўплыў на стрымліванне інфляцыі працягваюць аказваць манетарныя фактары. Прырост сярэдняй шырокай грашовай масы ў студзені 2017 года да студзеня 2016 года склаў 0,3 працэнта, што адпавядае існуючым макраэканамічным умовам. На ўнутраным валютным рынку захоўваецца чыстае прапанаванне замежнай валюты, у асноўным за кошт продажу валюты насельніцтвам. «У сегменце суб'ектаў гаспадарання попыт і прапанаванне валюты збалансаваны, што адлюстроўвае тэндэнцыі, якія складваюцца ў знешнім гандлі. У цэлым гэтыя фактары ствараюць умовы для ўстойлівасці абменнага курса беларускага рубля. На дэпазітным рынку захоўваецца прырост рублёвых укладаў насельніцтва пры павелічэнні долі новых безадзыўных дэпазітаў у структуры ўкладаў», - адзначылі ў Нацбанку і растлумачылі, што на фоне чаканага запавольвання інфляцыі зніжэнне стаўкі рэфінансавання і ставак па аперацыях Нацыянальнага банка па падтрымцы бягучай ліквіднасці банкаў не прывядзе да іх значнага змянення ў рэальным выражэнні. Гэта дасць магчымасць захаваць рэальную даходнасць банкаўскіх рублёвых зберажэнняў на ўстойлівым і прывабным узроўні.

*БЕЛТА*

## У Мёрах запрацаваў «ГиперМолл» - новая дастаўка ежы і прамтавараў ад «Еўраопта»




■ finance.tut.by

**Цяпер замовіць прадукты харчавання і прамысловыя тавары можна бясплатна і праз інтэрнэт. З 23 студзеня «ГиперМолл» зарабіў ва ўсіх гарадах, пасёлках гарадскога тыпу і вёсках Беларусі з колькасцю жыхароў ад 5000 чалавек. Ён размясціўся па адрасе ў інтэрнэце https://gipermall.by/.**

У новым онлайн-гіпермаркеце «ГиперМолл» могуць здзяйсняць пакупкі жыхары Віцебска, Полацка, Наваполацка, Оршы, Паставаў, Глыбокага, Лепеля, Новалукомля, Гарадка, Барані, Талачына, Браслава, Чашнікаў, Мёраў, Дуброўна, Сянно, Верхнядзвінска, Докшыц, Шуміліна, Бешанковічаў, Вусны, Шаркаўшчыны, Лёзна, Ушачаў, Баравухі, Россон. Акрамя таго, на працягу года на мапе Беларусі будуць з'яўляцца новыя населеныя пункты, у тым ліку, і вёскі. Да канца лютага 2017 года «ГиперМолл» будзе абслугоўваць насельніцтва не толькі ўсіх гарадоў, але і ўсіх буйных вёсак з насельніцтвам ад 1000 чалавек.

Галоўная перавага онлайн-крамы «ГиперМолл» - нізкія цэны. Супрацоўнікі кампаніі пастаянна маніторац 12 самых папулярных гандлёвых сетак краіны, каб усталяваць цэны на аналагічныя тавары ніжэй, чым у іншых крамах. Акрамя таго, калі пакупнік знойдзе тавар танней, чым у «ГиперМолл», і паведаміць пра гэта праз форму зваротнай сувязі, то на сайце дастаўкі кошт на гэты тавар будзе аператыўна зніжаны.

Такі маніторынг цэн і пастаянная зваротная сувязь ад пакупнікоў дазваляюць фармаваць самыя даступныя цэны. Пры гэтым дастаўка тавараў ажыццяўляецца бясплатна.

Дастаўку замовы можна аформіць як на ўласны адрас, так і забяспечыць пакупкамі сваіх сваякоў ці знаёмых з невялікіх населеных пунктаў. У выпадку афармлення пакупак для кагосьці заказ аплачваецца праз інтэрнэт банкаўскай картай пасля афармлення замовы альбо наяўнымі пры атрыманні. «ГиперМолл» дастаўляе тавары па тым адрасе, які пакажа пакупнік.

- Усе нашы новыя сэрвісы, у першую чаргу, сацыяльныя. Мы імкнемся даваць доступ да шырокага асартыменту тавараў тым людзям, якія жывуць у пасёлках і вёсках. Пры гэтым разумеем, што ў людзей старэйшых, якія пражываюць у сельскай мясцовасці, напэўна будуць складанасці з афармленнем замовы, так як доступ у інтэрнэт ці ўменні карыстацца планшэтам альбо кампутарам ёсць далёка не ва ўсіх. Таму адрасуем сваё паведамленне, хутчэй, дзецям і ўнукам, у якіх зараз з'явіўся лёгкі спосаб паклапаціцца пра сваіх блізкіх: проста аплаціць куплю і паказаць адрас, а дастаўку мы возьмем на сябе, - адзначыў дырэктар сэрвісу «ГиперМолл» Васіль Вілька. - Нашы кур'еры будуць здзяйсняць маршруты па ўсе абласныя цэнтры, а таксама ў гарады і пасёлкі Віцебскай вобласці. Зона дастаўкі пры гэтым будзе пастаянна расці.

Што можна купіць у «ГиперМолл»? Бакалеі, малочную прадукцыю з доўгім тэрмінам захоўвання, хлебабулачныя вырабы, напоі, прысмакі, дзіцячае харчаванне і тавары для дзяцей, бытавую хімію, касметыку і парфумерыю, адзенне, абутак, галантарэю, тавары для дома і для жывёл, тавары для саду і агарода, а таксама тэхніку, электратавары, аўтатавары, кнігі і многае іншае. Асартымент кожны дзень папаўняецца на 500 новых таварных пазіцый. На працягу месяца ён будзе ў 3-4 разы больш, чым асартымент любога, нават самага вялікага гіпермаркета краіны.

Такім чынам, вырашаецца важная сацыяльная задача: жыхары абласных цэнтраў і малых гарадоў Беларусі атрымліваюць доступ да шырокага пераліку тавараў па лепшых цэнах. Працэс здзяйснення пакупак робіцца простым, хуткім і камфортным. Эканоміцца час і грошы. Супрацоўнікі кампаніі пастаянна працуюць над асартыментам «ГиперМолл», і неўзабаве ён будзе шырэй, чым у любым гіпермаркеце краіны.

Адметна і тое, што ў «ГиперМолл» таксама дзейнічаюць звыклыя для пакупніка акцыі - такія, як «Чырвоны кошт». Акрамя таго, пакупнікі інтэрнэт-гіпермаркета таксама могуць станавіццаўдзельнікамінароднай гульні «Удача ў дадатак!». На іх распаўсюджваюцца тыя ж правілы, што і на іншых пакупнікоў гандлёвай сеткі «Еўраопт».

Інтэрнэт-гіпермаркет працуе без выхадных дзён. Заказ на сайце можна размяшчаць кругласутачна з любой кропкі свету. Дастаўка ажыццяўляецца на працягу аднаго-двух дзён.

## У Беларусі ўвядуць страхаванне рызык работнікаў пры банкруцтве і страхаванне ад беспрацоўя

■ Алена Прус - БЕЛТА

**У Беларусі плануецца ўкараніць страхаванне рызык работнікаў пры банкруцтве і страхаванне ад беспрацоўя. Пра гэта паведаміў у інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі Андрэй Лабовіч.**

«Асноўнае права работніка - атрыманне ўзнагароджання за працу. У тых выпадках, калі ў арганізацыі няма сродкаў, каб разлічыцца з работнікам па аб'ектыўных прычынах, патрабуецца замацаванне дадатковых гарантый. Цяпер мы прапрацоўваем механізмы абароны правоў работнікаў пры неплацежаздольнасці наймальнікаў», - адзначыў суразмоўца. Гаворка ідзе пра новы для краіны механізм - страхаванне на выпадак нявыплаты заработнай платы пры банкруцтве арганізацыі.

Пакуль гэта пытанне заканадаўча не ўрэгулявана, работнікі збанкрутавалых прадпрыемстваў сутыкаюцца з вялікай праблемай - затрымка разліку можа доўжыцца некалькі месяцаў. «Прапановы па ўвядзенні такога страхавання ўжо накіраваныя ва ўрад», - сказаў Андрэй Лабовіч. Што тычыцца сістэмы страхавання ад беспрацоўя, то Навукова-даследчы інстытут працы Мінпрацы і сацабароны, прааналізаваўшы міжнародны вопыт, распрацаваў некалькі мадэляў сістэм страхавання ад беспрацоўя. Яны былі абмеркаваны на пасяджэннях міжведамаснай рабочай групы, у склад якой увайшлі прадстаўнікі дзяржорганаў, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і аб'яднанні наймальнікаў. «Усе прапанаваныя мадэлі пераследуюць адну мэту - матэрыяльна падтрымаць чалавека, які па аб'ектыўных прычынах апынуўся без працы», - падкрэсліў першы намеснік міністра.

## Вызначана бяспечная для здароўя колькасць працоўных гадзін на тыдзень

Аўстралійскія навукоўцы вызначылі максімальна дапушчальную для захавання здароўя працоўных колькасць працоўных гадзін у тыдні. Адпаведнае даследаванне апублікавана ў часопісе Social Science & Medicine, коратка пра яго паведамляе Аўстралійскі нацыянальны універсітэт.

Для вядзення здаровага ладу жыцця спецыялісты рэкамендавалі працаваць не больш за 39 гадзін у тыдзень. Калі дадзены час павялічваецца, то, як лічаць эксперты, гэта можа прывесці да парушэнняў у псіхічным і фізічным стане работніка, паколькі чалавек не зможа надаваць належную ўвагу сабе, у прыватнасці, пытанням харчавання і гігіены.

Да сваіх высноў навукоўцы прыйшлі, прааналізаваўшы працягласць працоўнага дня больш за восем тысяч аўстралійцаў і дадзеныя аб бягучым стане іх здароўя.

Спецыялісты рэкамендуюць скараціць час, які затрачваецца на працоўную дзейнасць, прыкладна дзвюма трэцім грамадзянам краіны 24-65 гадоў, якія працуюць у сярэднім больш за 40 гадзін у тыдзень. Асабліва аўтары даследавання адзначаюць загружанасць жанчын, большасць з якіх выконваюць яшчэ і хатнюю працу.

## Усміхніцеся

Муж с женой спят вместе в кровати. Муж во сне ворочается и причитает:

— Наденька, Наденька... .

Жена просыпается и бьет по лбу мужу:

— Что это такое, какая еще Наденька?

— Надень-ка на меня одеяло, а то что-то ноги мерзнут!

***

- Ваш банк даёт кредиты под честное слово?
- Без проблем…
- А если я не верну?
- Вам будет стыдно перед Всевышним, когда предстанете.
- Ну, когда это ещё будет…
- Вот, если пятого не вернёте, то шестого и предстанете

***

Инспектор ГИБДД обращается к своему начальнику:

- …у меня жена родила.
- Молодец, премию тебе выпишем.
- Да нет, вы не поняли, у меня сын родился!
- Хорошо, две премии…
- Ну вы совсем меня не поняли, у меня, второй сын!!!
- Ладно, возьми знак «40» и поставь, где захочешь!

***

Встречаются два еврея:

- Изя, если бы у тебя было две машины, ты бы отдал мне одну?
- Конечно, Абрам. Мы же с тобой с детства друзья. О чем речь?
- Изя, а если бы у тебя было две яхты, ты бы мне отдал одну?
- Конечно, Абрам. Я же был на свадьбе твоей дочери. Нечего об этом и спрашивать.
- Изя, а если бы у тебя было две курицы…
- Так. Стоп, Абрам. Так не честно. Ты знаешь, что у меня они есть.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ковш для подачи руды из шахты | Дисциплина в мотоспорте | Инжир | | | | | | |
| | | | | Мирей ... | | Чертово ... | | Ударение в слове | |
| | Лампас по своей сути | Житель Дагестана | | | | | | | |
| | | | | Город на Оке | | Богач | | Обращение в суд | |
| Амер. полярный путешественник | | ... существительное | | | | | | | |
| Кормушка в хлеву | | | | | Банный ... | | | | |
| Искусственный язык | Врожденное слабоумие | | Этиловый ... | | Экономический ... | | Мягкий внутр. слой коры дерева | | Сибирский лес |
| | | | | | | | | Жена Адама | |
| | Знак зодиака | | Пояс для кимоно | Американский полицейский | | Инструмент швеи | | | |
| | | | | | | | | Единица электр. сопротивления | |
| Калиевый полевой шпат | | Удав | | | | Винсент ван ... | | | |
| Рекламный ролик | | | | | Монах в Тибете | | | | |

**Ответы на сканворд № 05**

**По горизонтали:** «Як». Дуло. Амт. Идунн. Иса. Давид. Юр. Водопад. Уса. Обод. Нос. Ан. Турне. Яма. Уху. Лепорин.

**По вертикали:** Актив. Хонсю. Ям. Диод. Уд. Луи. Андалусия. Наряд. Иго. Боб. Вандал. Доступ. По. Адан. Неон. Ухо. Рур.

## ГАРАСКОП НА НОВЫ ТЫДЗЕНЬ



**АВЕН.** На гэтым тыдні вам спатрэбіцца ўменне наладжваць кантакты і будаваць узаемаадносіны з людзьмі, нават калі вашы погляды на жыццё не супадаюць. Каб выплюхнуць негатыў і агрэсію, зоркі раяць заняцца спортам ці прабегчыся на лыжах некалькі кіламетраў. У сярэдзіне тыдня могуць паступіць прапановы, звязаныя з дадатковым заробкам, пастаўцеся да іх сур'ёзна. У выхадныя дні зносіны з блізкімі людзьмі нададуць вам дадатковы зарад станоўчай энергіі.

**ЦЯЛЕЦ.** Па ўсіх прыкметах, вы на парозе вялікіх пераменаў.



Надыходзіць складаны і адказны тыдзень. Некаторыя прадстаўнікі знака вырашацца на кардынальную змену знешняга выгляду, што пойдзе ім на карысць. Аднак у гэтай справе можна давяраць толькі прафесіяналам. У другой палове тыдня многае можа раздражняць і выводзіць з сябе, і даць рады эмоцыям будзе няпроста. Паспрабуйце, каб ад праявы вашых пачуццяў не пацярпелі блізкія людзі. У канцы тыдня лепш узяць ініцыятыву ў свае рукі, хутка прымаць рашэнні і даводзіць пачатае да канца. У выхадныя не варта настойваць на сваёй праўдзе, так як бяскрыўдная спрэчка можа скончыцца сур'ёзнай сваркай.

**БЛІЗНЯТЫ.** На гэтым тыдні старайцеся зламіць сваю хвалю, праверыць яе на адпаведнасць генеральнай лініі, зададзенай звыш, і ўтрымлівацца на ёй да таго часу, пакуль не стане ясна,



што рабіць далей. Азарэнне вельмі хутка прыйдзе, і вы прымеце найбольш дакладнае рашэнне. Пакуль жа вам не варта вылучацца, паспрабуйце проста заняць сваё месца. Асаблівых дасягненняў на працы не прадбачыцца, вас чакае руціна, але добрааплочваемая. Каб з другой паловы тыдня ў хаце не склалася гнятлівая абстаноўка, ад вас асабіста спатрэбіцца максімум такту і дабрыні. У выхадныя вам атрымаецца вырашыць вялікую частку назапашаных праблем.



**РАК.** Вы збянтэжылі сябе занадта грандыёзнымі планамі, можа быць, лепш іх скараціць, аб'ектыўна ацаніўшы свае сілы. Верагодныя камандзіроўкі, якія дазволяць вам адцягнуцца ад некаторых праблем. Вашы крытычныя выказванні могуць справакаваць канфліктную сітуацыю, таму сачыце за сваёй мовай. У выхадныя, вырашаючы важныя пытанні, прыслухайцеся да парадаў блізкіх людзей, і не адмаўляйцеся ад іх дапамогі.



**ЛЕЎ**. На гэтым тыдні поспех будзе на баку тых, хто праявіць упартасць у пошуку новых сфер для ўжывання сваіх талентаў. Усё абавязкова атрымаецца, вы на верным шляху, але не варта чакаць, што жыццё падасца поўнай чаркай ужо да канца тыдня. Хутчэй наадварот, у вас будзе залішне шмат працы, і могуць з'явіцца шкадаванні аб тым, што вы ўзвалілі на сябе ўсё гэта. Аднак не варта спыняцца. У другой палове тыдня вам спатрэбіцца дапамога блізкіх у вырашэнні нейкай фінансавай праблемы. У выхадныя дні паспрабуйце стварыць дома максімальна гарманічную атмасферу.



**ПАННА.** У пачатку тыдня будзьце асцярожныя з новай інфармацыяй. Вашы дасягненні - гэта вельмі пахвальна, але прыйшоў час рухацца наперад, да новага, і вельмі цікавага. Сярэдзіна тыдня - самы ўдалы час, паспрабуйце яго максімальна выкарыстоўваць. Канец тыдня можа стаць напружаным днём, не дазваляйце ўцягнуць сябе ў канфліктную сітуацыю на працы. Успомніце пра сваіх сваякоў, зараз нядрэнны час для прымірэння і аднаўлення адносін. Прыемныя падзеі могуць адбыцца з вашымі дзецьмі.



**ВАГІ**. На гэтым тыдні верагодна змяненне вашага круга зносін. На першым плане для вас апынуцца новыя людзі з іншымі поглядамі на свет. Лагодны лад і стрыманасць манер дазволяць вам пазбегнуць раздражнення з боку начальства. У сярэдзіне тыдня вы можаце пацярпець ад канфліктных сітуацый, якія ўзніклі з прычыны вашай уласнай паспешнасці. У другой палове тыдня, магчыма, прыйдзецца падпісваць важныя паперы афіцыйнага характару. Будзьце асабліва ўважлівыя, вывучайце дакументы.



**СКАРПІЁН.** У любой сітуацыі на гэтым тыдні разлічвайце толькі на сябе. У першыя дні тыдня варта вылучыць час для планавання бліжэйшай будучыні, вас могуць наведаць цікавыя і перспектыўныя ідэі, які неўзабаве ажыццявяцца. Другая палова тыдня - добры час для творчасці і павышэння па службе. Начальства будзе выконваць вашыя інтарэсы. Магчыма прынясуць пазітыўных рашэнняў, якія прынясуць прыбытак і поспех. Вам можа павезці, у тым ліку і ў грашах.



**СТРАЛЕЦ.** На працягу практычна ўсяго тыдня ў вас будзе роўны добры настрой, асабліва, калі вы дасце сабе магчымасць адпачыць. Плаўны працяг працоўных спраў дазволіць вам паднявца па кар'ернай лесвіцы. З другой паловы тыдня магчымы пачатак павольнага, але дакладнага збліжэння з прадстаўніком супрацьлеглага полу. Вас можа прыемна здзівіць хто-небудзь з блізкіх. Дыпламатыя і такт дадуць магчымасць паспяхова кіравацца з бягучымі праблемамі, у тым ліку і вельмі далікатнай уласцівасці.



**КАЗЯРОГ.** Тое, да чаго вы імкнецеся, можа апынуцца процілеглым таму, што вам неабходна зрабіць у рэальнасці. Страх за сваю будучыню можа прымусіць вас пачаць будаваць падступныя задумы. Не варта паддавацца гэтаму разбуральнаму жаданню, інтрыгі прынясуць шкоду ў тым ліку вам. Паверце, ёсць куды больш рацыянальныя і сумленныя спосабы вырашэння праблем. У канцы тыдня вам, магчыма, прыйдзецца мець зносіны са ваякамі ці даўнімі знаёмымі. Выхадныя трэба прысвяціць выкананню сваіх жаданняў і як трэба адпачыць.



**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні вас пацешаць прыемныя сустрэчы з даўнімі сябрамі. Працы будзе шмат, і, хоць частку спраў атрымаецца перакласці на шырокія плечы партнёраў, асноўную працу прыйдзецца рабіць вам, аб'ектыўна разлічваючы свае сілы і магчымасці. Жаданне зняць напругу, чапляючыся да навакольных, варта здушыць у зародку, гэтым вы толькі сапсуеце адносіны з калегамі і нічога не даможацеся.



**РЫБЫ.** Вы цяпер можаце стаць выдатным арганізатарам вясёлых вечарынак. Не выключана, што прыйдзецца адзначыць сямейнае свята ў вузкім, элітарным крузе. Будзьце асцярожныя на публічных выступах і памятайце, што сціласць - сястра таленту. У канцы тыдня на працы могуць паўтарыцца не занадта прыемныя падзеі. Але ў вас ужо ёсць досвед, як спраўляцца з гэтымі праблемамі.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 07. 02 .2017 г. у 20[50]
Наклад 1400 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 5-52-94;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3

Замова 58

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.

Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае